© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

25—31 ліпеня 1998 года
№ 56 (136)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 2000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

## 27 ліпеня — 8-я гадавіна прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Дызентэрыя

выяўлена ў Івацэвіцкім садку "Іскрынка". Група, у якой захварэлі трое малышоў, закрыта санслужбай раёна. Яшчэ адна група, у якой пакуль выяўлена адно захварэўшае дзіця, пераведзена на каранцін. Усе чацвёра малышоў знаходзяцца на стацыянарным лячэнні ў інфекцыйным аддзяленні раённай бальніцы. Яшчэ адзін выпадак бытавога захворвання на дызентэрыю (не звязанага са знаходжаннем у садку) зафіксаваны ў дзіцячым садку "Бярозка". Сярод персаналу садкоў захварэўшых няма, усе выхавальніцы і няні прайшлі адпаведнае абследаванне.

Прычынай захворвання дзяцей на дызентэрыю работнікі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі называюць незахаванне санітарна-проціэпідэмічнага рэжыму, у тым ліку дызінфекцыйных мерапрыемстваў па каранціну дадзенай інфекцыі. У "Іскрынцы", напрыклад, санработнікі выявілі, што кіпячоная вада не адпавядае стандарту. Гэта бывае тады, калі ёмістасці, дзе кіпяціцца вада, не мыюцца ці вада ў іх утрымліваецца па некалькі сутак.

Гэтым летам івацэвіцкім садкам наогул не шанцуе. Яшчэ на слыху нядаўняе інфекцыйнае захворванне дзяцей у дзіцячым садку "Алеся", дзе больш за 20 дзяцей захварэлі на іерсініёз. Цяпер — выпадак захворвання на дызентэрыю. Аднак, па словах работнікаў РЦГЭ, асаблівай насцярожанасці ў дашкольных і іншых дзіцячых установах гэта не выклікае. У асобных садках назіраюцца дробныя парушэнні санітарна-процiэпідэмічнага рэжыму. Праз газету санслужба звяртаецца да ўсіх адміністрацый і работнікаў дзіцячых устаноў: звярніце ўвагу на тое, што ў раёне павышаны фон па кішэчных захворваннях. Строга захоўвайце санітарныя нормы і рэкамендацыі ўтрымання дзяцей.

### "Патрыёты" разбегліся

Ад гэтых "патрыётаў" ніколі не ведаеш, чаго чакаць. Узялі і кінулі на волю лёсу райкам БПСМ — важную і салідную арганізацыю. Сакратары Аляксандр Гляд і Віктар Голуб, якім было даручана разгарнуць маладзёжны рух у раёне, падвялі мясцовую вертыкаль: напісалі заявы на звальненне. Просьба важакоў задаволена. Цяпер хлопцы зусім і не патрыёты — Аляксандр Гляд вярнуўся ў ПТВ-162, дзе працаваў раней, а Віктар Голуб пайшоў бліжэй да вялікіх грошай — у "Беларусбанк". Кажуць, ім надакучыла пісаць бадзёрыя рапарты наверх аб масавым ахопе тых, хто "з прэзідэнтам у сэрцы", і праводзіць віктарыны.

Райвыканкам ліхаманкава шукае кандыдатаў, каб запоўніць наменклатурныя вакансіі. Цікава, ці заўважыла моладзь раёна, што кіпучая дзейнасць райкама БПСМ часова затухла?

### У ЗАПОЛЛІ НІБЫ Ў ЧАЧНІ

Неверагоднай трагедыяй завяршылася свята вёскі, якое адзначалі ў мінулую нядзелю, 19 ліпеня, жыхары Заполля Івацэвіцкага раёна. Удзел у ім прымалі і госці вёскі, запрошаныя і, як гаворыцца, няпрошаныя. Сярод апошніх былі і трое сяброў з Івацэвічаў — маладыя хлопцы каля ці крыху больш за 23-ы гады Шыманчык, Курачкін і Рацкевіч.

Каля 2 гадзін ночы Ігар Шыманчык з дзяўчынай пайшлі з клуба вёскі, каб замыць запэцканыя штаніны хлопца. Ігар зайшоў у двор аднаго з дамоў Заполля, дзяўчына чакала яго на вуліцы. На стук калодзежнага вядра выйшла гаспадыня дома і загадала хлопцу пакінуць двор. Ён нешта адказаў. Якім тонам і што — установіць следства. Але, відавочна, адказ гаспадыні не спадабаўся, і яна выклікала з дому ўнука. Той выскачыў з нажом, і праз некалькі мінутаў дагнаў Ігара Шыманчыка ля клуба і нанёс няпрошанаму госцю некалькі смяртэльных удараў нажом у грудзі.

На адчайны крык дзяўчыны прыбег сябра Шыманчыка — Валера Курачкін. Напэўна, міжволі ён таксама ўступіў у бойку і атрымаў нажавое раненне, якое аказалася смяртэльным.

Рацкевіч таксама спрабаваў ратаваць сяброў і таксама атрымаў шэсць нажавых удараў. У хуткім часе яму была аказана першая медыцынская дапамога ў Косаўскай бальніцы. Яго жыццё знаходзіцца па-за небяспекай, ён нават не шпіталізаваўся.

Шыманчык і Курачкін памерлі на месцы жудаснага здарэння. Івацэвічы з імі развіталіся 21 ліпеня.

Пра забойцу вядома наступнае: Н. — 1975 года нараджэння, раней не судзімы, рускі, служыў у Беларусі. Працаваў у ПМК-2. Затрыманы ў тую ж ноч, знаходзіцца пад следствам.

Загінуўшыя хлопцы Ігар Шыманчык і Валера Курачкін спрабавалі свае сілы ў прадпрымальніцтве, мелі шмат планаў і мараў. Іх жыцці абарваліся дзікай ноччу ў Заполлі, на вачах моладзі вёскі.

## ПОБЕЖДАЮТ ОГОНЬ

***Сегодня белорусские пожарники отмечают свое 145-летие. Ивацевичский отряд военизированной пожарной службы профессиональный праздник встречает в полной боевой готовности и немалыми успехами в тушении пожаров. За I полугодие этого года ими потушено 65 пожаров, отвоёвано у огня товаро-материальных ценностей более чем на 6.740 млн. рублей и 30 строений. Спасены жизни 10 человек.***



*НА СНИМКЕ: 3-й караул ВПЧ г. Ивацевичи — Алексей Ващило, Игорь Мялик (начальник кариула), Игорь Фолитарик, Виктор Шалупенко, Павел Терещук, Александр Щитов.*

Сегодняшняя жизнь пожарной службы — это и будни Ивацевичского отряда военизированной пожарной службы, и будни её семи опорных постов. О трудовых буднях своих опорных постов делятся с нашим корреспондентом начальники основных постов района.

**Д. Гречный, начальник поста д. Оброво**:

— К сожалению, все вразумительные беседы о пожарной безопасности наш народ воспринимает как неизбежный штамп, особенно не задумываясь о действительной угрозе, которую может представлять пожар.

Вот, к примеру, недавний случай. В Святой Воле пожилая женщина наняла двух работников для ремонта крыши сарая. Эти работники, не считаясь с правилами пожарной безопасности, курили на рабочем месте. В результате возникло загорание. Потом перед инспектором они отнекивались, даже попытались объяснить загорание молнией. А день был ясный и погожий...

**И. Левчук, начальник поста д. Бытень**:

— Наша служба действительно и опасна, и трудна. Наиболее типичные случаи пожаров? Та же "бытовуха" и особенности сегодняшней жизни деревни. Объяснюсь. Нынешняя деревня — это множество заброшенных старых домов. Как вам ни покажется странным, но от этих домов исходит конкретная опасность.

**В. Гречный, начальник поста д. Вулька-Обровская:**

— Проблемы службы нашего поста принципиально не отличаются от проблем подобных постов. Но, слушая своих коллег, я заострил бы внимание и обратился бы к читателям с просьбой о бережном отношении к природе. В нашей зоне эта тема более чем актуальна. Всё потому, что пожарам подвержены не только лес, но и почва, торф. Прямо чешутся руки у наших сограждан, когда видят перед собой сухую прошлогоднюю траву. Мы же в "союзники" призываем человеческую мудрость и дожди.

**А. Юнчик, начальник поста д. Гортоль**:

— Наши проблемы мало отличаются от проблем соседних постов. Разве что вот недавно "прославились" с шаровой молнией. Так что приходится взаимодействовать даже с Богом (смеётся). Если серьезно, то хочется поблагодарить за помощь колхозы и другие организации, с которыми работаем бок о бок.

Видно, что руководители хозяйств с пониманием относятся к работе пожарных служб. Начинается жатва и горячие дни не только для земледельца, но и для нас.

*А. ГОРБАЧ.*

БЯРОЗА

### Афіцыйна беспрацоўе ў нас памяншаецца...

Як вядома, палітыка прэзідэнта Беларусі забараняе масавыя скарачэнні рабочых. Гэта прымушае кіраўнікоў, каб зменшыць страты сваіх прадпрыемстваў, ісці іншым шляхам і ствараць такія ўмовы, каб людзі самі патроху сыходзілі. "Газета для вас" паведамляла ўжо аб працы трыкатажніцаў КБА г. Бярозы. Многія жанчыны на перыяд гэтых 3-х месяцаў, калі трыкатажнае атэлье амаль не будзе працаваць, знайшлі нейкую часовую працу: некаторыя ўладкаваліся на пераборку чарніцаў, іншыя пайшлі на крэветкі, нехта пайшоў на падмену на час адпускнікоў. Дарэчы, цікавасць да становішча трыкатажніцаў праявілі прадстаўнікі свабодных прафсаюзаў.

### Ці добра выкарыстоўваюцца грошы?

Не толькі станоўчыя эмоцыі ў бярозаўцаў выклікае падрыхтоўка горада да вераснёўскіх абласных дажынак. Бо ў той час, як упарадкоўваюцца цэнтральныя вуліцы і ў цэнтры па вул. Леніна ставіцца хоць і даволі прыгожая чугунёвая паўметровая агароджа (але сумніўна, наколькі неабходная і патрэбная пры немалым яе кошце), то па далёкіх ад цэнтру вуліцах (напрыклад, 17 Верасня, Альшэўскага і інш.) у гэта багатае на дажджы лета цяжка прайсці. Дарэчы, не ўсё робіцца так, як трэба. Калі раней, едучы па вуліцы Леніна, можна было казаць: "ямка, ямка...", то пасля яе рамонту: "бугор, бугор...".



І афіцыйныя, і незалежныя газеты хорам пішуць аб падзенні курсу беларускага рубля. Відавочна, што Беларусі зноў пагражае фінансавы крызіс: долар расце нібы на дражджах, і за наяўныя грошы яго танней, чым за 60.000 рублёў, не купіш.

### Тэлефон для стукача?

Зразумела, што такая сітуацыя не спрыяе папаўненню дзяржаўнай казны валютай. Таму чыноўнікі, адказныя за фінансавы бок эканомікі рэспублікі, пастаянна вышукваюць новыя метады яе збыцця. Пры гэтым — не грэбуюць нічым. Грамадзян, напрыклад, заклікаюць званіць у Брэст па тэлефоне 26-35-38 у любы час сутак і паведамляць аб неплацельшчыках падаткаў. "Гэта зроблена ў мэтах недапушчэння няўплаты падаткаў як юрыдычнымі, так і фізічнымі асобамі..," — піша ў заметцы "Каб не было спакусы хаваць падаткі" газета "Івацэвіцкі веснік".

Падаткі спаганяць трэба. Але ці трэба для гэтага прыбягаць да такіх метадаў, якія заахвочваюць самыя нізкія, подлыя рысы чалавека — прагу даносу, помсты, стукацтва? Хто дасць гарантыю, што гэтым тэлефонам не скарыстаецца той, хто носіць камень за пазухай на свайго ў нічым невінаватага бліжняга? Тэлефон для стукача можа стаць сродкам для звядзення разлікаў з няўгоднымі, якіх пачнуць падазраваць ва ўхіленні ад выплаты падаткаў.

Асабліва прыкра, што да гэтай кампаніі далучаюцца пэўнага накірунку газеты (як, напрыклад, "Івацэвіцкі веснік"). Як не ўспомніць тут сталінскія часы, калі людзей саджалі ў турмы, гнаілі і расстрэльвалі толькі па тэлефоннаму званку ці пісульцы стукача! Гісторыя паўтараецца?..

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Жизнь становится короче

*По данным Министерства статистики и анализа, по состоянию на 1 января текущего года в республике проживало 10 миллионов 204 тысячи человек.*

В том числе 4 миллиона 761 тысячи мужчин и 5 миллионов 443 тысячи женщин. Если сравнивать численность населения с 1996 годом, то оно уменьшилось на 61 тысячу человек.

Стало больше в республике людей пенсионного возраста. Если в 1989 году их было 1 миллион 984 тысячи, то на начало нынешнего — уже 2 миллиона 176 тысяч человек.

В тоже время уменьшается число детей в возрасте до 16 лет. В 1989 году их было 2 миллиона 483 тысячи, а сегодня только 2 миллиона 246 тысяч. Падает и продолжительность жизни. В 1989 году она составляла в среднем по республике 71,8 года, по данным же за 1997 год — уже 68,5.

## Вашынгтон зачыняе дзверы

*Услед за 25-цю еўрапейскімі краінамі Злучаныя Штаты таксама ўводзяць візавыя абмежаванні на ўезд у Амерыку высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў.*

Атрымаўшы гэтую навіну, ведамства Івана Антановіча ў чарговы раз "выказала шкадаванне, што замест канструктыўнага дыялогу адбываецца далейшая эскалацыя напружанасці".

## "Газпрам" хоча толькі грошай

*Урад Беларусі ў чарговы раз атрымаў тэлеграму з канцэрна "Газпрам", у якой расійскі газавы магнат патрабуе неадкладнай сплаты запазычанасці за газ.*

Прычым, як паведаміла ўрадавая крыніца, гэтым разам "Газпрам" патрабуе таксама на тры месяцы зняць аплату таварамі і перайсці да разлікаў за прыродны газ выключна грашыма.

Нагадаем, што вясной былі падпісаны двухбаковы пратакол, паводле якога Беларусь абавязалася плаціць за газ у наступнай прапорцыі: 26% — грашыма, 74% — таварамі і паслугамі. Аднак цяпер, калі ў "Газпрама" ўзніклі фінансавыя праблемы, звязаныя са спагнаннем падаткаў у дзяржаўны бюджэт, канцэрн не толькі хоча неадкладнай сплаты запазычанасці Беларусі ў памеры 230 млн. долараў ЗША, але і валютных разлікаў за наступныя пастаўкі.

## Слухайце радыё "Вольная Беларусь"

*У хуткім часе з Беластока пачне вяшчаць радыё "Вольная Беларусь".*

Рэдакцыйны калектыў новага радыё размесціцца ў памяшканнях Адукацыйнага цэнтра "Польшча-Беларусь" у Беластоку. "Паколькі ў Беларусі фактычна няма незалежных электронных сродкаў масавай інфармацыі,такое радыё стала б для беларусаў крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі аб падзеях у краіне", — лічыць дырэктар цэнтра Яўген Вапа. Фінансаваць праект будуць ЗША і Еўрапейскі Саюз.

Радыё "Вольная Беларусь" будзе працаваць на сярэдніх хвалях. Тэхнічныя магчымасці радыётрансляцыі у Беластоку дастатковыя, каб ахапіць практычна ўсю тэрыторыю Беларусі.

## Семінарыя: чарговы выпуск і новы набор

*У Мінскай духоўнай семінарыі, што ў Жыровічах, адбыўся чарговы выпуск.*

Дыпломы свяшчэннаслужыцеляў уручаны 60 выпускнікам стацыянарнага і завочнага аддзяленняў. 15 былых семінарыстаў атрымалі ступені бакалаўра багаслоўя.

Акрамя свяшчэннаслужыцеляў семінарыя сёлета ўпершыню падрыхтавала 14 рэгентаў. Разам з дыпломамі яны атрымалі накіраванні на работу ў праваслаўныя прыходы, дзе будуць кіраваць царкоўнымі харамі.

У семінарыі аб'яўлены новы набор. У гэтай вышэйшай духоўнай навучальнай установе (тэрмін навучання тут 5 гадоў) працуе прыёмная камісія. Дакументы прымаюцца да 1 жніўня. Экзамены пачнуцца з 10 жніўня.

## Фальшываманетчыкі выкрыты

*Каля сарака тысяч фальшывых долараў ЗША было выведзена з абароту супрацоўнікамі праваахоўных органаў Мінска за першыя шэсць месяцаў гэтага года.*

Па фактах незаконных валютных здзелак узбуджана 83 крымінальныя справы. У даход дзяржавы паступіла каля 75 тысяч амерыканскіх долараў, 16,4 тысячы нямецкіх марак, 6 мільярдаў беларускіх і 85 тысяч расійскіх рублёў.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# ПОУМНЕЛИ?

Картина недавних событий: в Минске заканчивается коммунистический митинг. Вот уже озабоченно суетятся организаторы, сворачиваются транспаранты, в обшарпанный "Рафик" уносятся микрофоны.

В сторонке стоит и рассеянно смотрит на эту суету пожилой человек с двумя портретами на плечах. На одном плече портрет Сталина, на втором ... Иисуса Христа.

Вот и товрищ И. Осташеня в недавнем номере газеты "Івацэвіцкі веснік" упрекает в антихристианстве новое поколение, поведав нам о "беспрецендентно кощунственной акции надругательства над памятью В. И. Ленина, заключающейся в коллективном поедании торта в виде копии его тела в натуральную величину". Если для товарища И. Осташени, как и других сотоварищей, В. И. Ленин — святость, то их негодование и натурально, и естественно. Это понятно. Непонятно другое. При чем здесь, собственно говоря, Христос?

Между тем "набожность" т. И. Осташени, как и других товарищей, весьма любопытного свойства и не так безобидна, как может показаться на первый взгляд. Тенденция: идет медленное втягивание Иисуса Христа в стан коммунистических адептов, проповедников марксизма-ленинизма.

Интересно и то, что сам факт "крещения" коммунистов происходит как-то исподволь; как будто и нехотя среди нынешних коммунистических лидеров появляются бородатые дяди в рясах и с крестами. И при этом нигде, ни на каких съездах или пленумах не услышишь о принципиальном изменении позиции партии к религии. А, между тем, эти изменения очевидны.

Чему удивляться? Сегодня даже такое прокоммунистическое издание как "Івацэвіцкі веснік" не забывает поздравить на первой же полосе "обожаемых" им простых людей с Пасхой, Троицей и так далее. С подобной же периодичностью эта газета печатает хвалебные материалы, посвященные В. И. Ленину, который, кстати, завещал церкви рушить, попов — в расход. И рушили, кресты с храмов сбрасывали, устраивали в них конюшни. И священников расстреливали.

Опиумом народа, ядом считал христианство вождь коммунистов В. Ленин. Почему же "забыл" об этом т. И. Осташеня, призывая к христианству, как будто какой-нибудь бэнээфовец?

— Ну вспомнил человек о Боге, — скажете вы. — Где же здесь скверна? Ведь пора, учитывая возраст этих людей, подумать им о вечном.

Да все дело в том, что нельзя идти к Богу не покаявшись. Великий грех хотя бы на словах соединять в одно целое Христа и его гонителей. Кощунственно объединять Ленина и Сталина с Христом!

Сегодня многие коммунистические говоруны проводят параллели между христианством и коммунизмом, очевидно, не понимая, насколько неэтично ходить со своим уставом в чужой монастырь. От чего-то надо бы и отказаться; как нельзя быть одновременно христианином и мусульманином, также совестно с утра носить венки к бронзовому идолу с вечно протянутой рукой, а потом целовать, слюнявя, подставленный батюшкой крест...

*А. ГОРБАЧ.*



## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"

*АЛЁНА, 15 лет. По гороскопу — Весы. Люблю слушать музыку, танцевать, проводить время в компании друзей. Любимый актер — Брэд Питт. Умею хорошо готовить. В мужчинах ценю ум, порядочность, честность. Выписываю и читаю "Газету для вас".*

# Резолюция митинга трудящихся промышленных предприятий Беларуси "За труд и достойную заработную плату"

*Принято на митинге 15 июля 1998 года*

Участники митинга трудящихся промышленности выражают категорический протест руководству республики в связи с дальнейшим снижением уровня жизни.

В течение последних четырех лет у работающих в промышленности практически не растет заработная плата. Тот прирост зарплаты, которого добиваются профсоюзы на предприятиях, "уничтожается" постоянно усиливающейся инфляцией. Беспрерывный рост цен на потребительские товары и услуги все больше людей труда обрекают на нищенское существование. А пенсионеры и ветераны промышленности уже давно живут в крайней нищете.

Требования и предложения профсоюзов по изменению социально-экономической политики игнорируются руководством республики. Правительство отделывается пустыми отписками, не выполняет ни своих обещаний, ни подписанных соглашений, превращая социальное партнерство в фарс. На многих предприятиях зарплата ниже уровня, определенного Генеральным и тарифным соглашениями.

Финансовое положение предприятий ухудшается, стареют производственные фонды и технологии, теряются рынки сбыта. Указами президента ограничен рост зарплаты. Предприятия в таких условиях не могут удовлетворять требования профсоюзов по повышению зарплаты, а значит, и стабилизации жизненного уровня трудящихся. Вся тяжесть происходящего перекладывается на плечи простых людей труда. Очевидно, что при такой политике нет никаких надежд на улучшение дел в промышленном производстве.

Участники митинга поддерживают требования Резолюции Республиканского собрания представителей трудовых коллективов и профсоюзных организаций от 21 мая 1998 года, проведенного Федерацией профсоюзов Беларуси, по изменению проводимого в республике социально-экономического курса в интересах трудящихся, поддерживают все предпринимаемые действия и акции профсоюзов по защите уровня жизни трудящихся.

Участники митинга требуют от правительства безусловного выполнения требований промышленных профсоюзов по обеспечению стабильной работы предприятий, повышению и своевременной выплате заработной платы, созданию нормальных условий труда, соблюдению трудовых и конституционных прав трудящихся и профсоюзов.

Участники митинга требуют от президента выполнения данных обещаний 26 февраля 1996 года и 11 апреля 1997 года по предоставлению времени на ТВ и радио для выступления профсоюзных лидеров и рабочих, а также встречи с делегацией рабочих промышленных предприятий и заявляют, что государственные средства информации, существующие на деньги трудящихся, обязаны предоставлять время и место для выступления рабочим и их лидерам.

Участники митинга, представляющие подавляющую часть промышленных предприятий, также заявляют, что если требования профсоюзов и резолюция данного митинга не будут выполнены, если не будет меняться социально-экономическая политика, то в октябре 1998 года, в соответствии с Резолюцией Республиканского собрания, трудовые коллективы и профсоюзные организации выйдут на общенациональную акцию протеста на центральные площади Минска и областных центров.

**Люди труда должны иметь решающее слово в своей стране!**

**Наша сила в рабочей солидарности!**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● *ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ*

# ХТО Ж ЗАКІНЕ СЛОВА ЗА СТАРОГА?

Невысокая, хударлявая, крыху згорбленая, з вузельчыкам у руцэ, жанчына стаяла на абочыне дарогі і, заўважыўшы спадарожную машыну, "галасавала", каб добры чалавек падвёз дахаты.

І ўжо ў легкавушцы, калі бабка ўселася, пачала расказваць пра сябе, пра сваё жыццё:

— Адхадзіла я, дзеткі, сваё. Бывала, з Доўгай у Быцень мігам зайду, назад вярнуся і не вельмі стамлю. А цяперака ўжо ножак няма...

Марыя Паўлаўна Грабун (так завуць старую) жыве ў вёсцы Доўгая, што ў Быценскім сельсавеце. Свая невялікая хатка, хлеў, агарод — вось і ўсё багацце. Марыі Паўлаўне ўжо 90. Шаноўны ўзрост. Яна — інвалід першай групы. Разам з ёй жыве ў хатцы сын Віктар, інвалід трэцяй групы.

— Перад вайной у нашай сям'і было сямёра дзетак, — расказвае далей М. П. Грабун. — Муж мой Валодзя ў лесе працаваў, смалу там здабываў. У вайну знаходзіўся дома, па гаспадарцы ўпраўляўся. Калі немцы палілі вёску, згарэла і наша хата. Здарылася гэта зімой. Цяжка было знайсці прытулак. Пахварэлі мае дзеткі, і чацвярых не стала. Засталіся жывымі два сыны і дачка. Надзя з сям'й жыве ў Баранавічах, Павел — у Сімферопалі, а Віктар — са мной. Маю ўнукаў і праўнукаў. Атрымліваю пенсію, Віктар — таксама...

Марыя Паўлаўна гаворыць пра набалелае, пра тое, што пражыта, што яе зараз хвалюе і турбуе. У яе голасе адчуваецца крыўда, незадаволенасць. Асабліва гэта тычыцца адносін да сына Віктара.

— Хварэў ён, дзеткі, з галавой нешта стала. Шкада мне яго. Здаецца, знешне здаровы мужык, а вось рабіць нічога не можа. Калі злуецца часам, то біцца кідаецца да мяне. Ужо да ўчастковага па дапамогу звярталася. Трохі паспакайнеў мой Віця. Але ці надоўга...

У старой на вачах слёзы, але яна ўсё гаворыць. Мне здалося, што пасля такой споведзі ў яе палягчэла на душы.

— Надзя з Баранавіч прыязджае наведаць. Не часта, але бывае. Няма чаго грашыць. Павел з Сімферопаля ў такую далеч не адважваецца паехаць. Ёсць у мяне сваякі і на месцы, у Доўгай. Але забыліся чамусьці пра мяне. Дапамагчы няма каму, хаця б агарод узараць. Вось у сельсавеце была, дровы і брыкет трэба, прасіла, каб дапамаглі. Бо пенсіі той (а яна каля мільёна) на ўсё не хапае. Ужо 25 гадоў як бядую без мужа. Памёр ён заўчасна. Ніяк да сябе не хоча забіраць мяне. А пакуль што жыву. Страшна, што заўтра будзе, бо сёння спадзявацца няма на каго...

Старая, яшчэ гамонячы, выйшла з машыны, шчыра падзякавала за дастаўку яе ў вёску і падыбала да такой жа старэнькай, як і сама, хаткі. Я глядзеў услед ёй і думаў пра сваё. Мне гэтая жанчына чымсьці нагадвала маю маці, якая пасля вайны засталася без мужа, а на руках трое дзетак. Самаму старэйшаму — дзесяць гадоў. І ўжо з вышыні пражытага спрабуеш ацаніць тыя цяжкія гады. Цяжка, вельмі цяжка было тады. Але маці ніколі не скардзілася на неўладкаванасць, на нястачу, а заўсёды падбадзёрвала нас малых: "Ну, мае родненькія, пойдзем па ягады, праполем гародчык, насячэм дроў..."

Сваёй дабрынёй, ласкай яна заўсёды вяла нас за сабой. А стаўшы дарослымі, мы ніколі не падумалі нават, каб пакрыўдзіць сваю матулю, бо лічылі і лічым яе самым дарагім чалавекам на свеце. Так было і будзе, калі бацькі і дзеці — аднадумцы. І дзе б сыны ці дочкі ні былі, заўсёды клапоцяцца пра старых бацькоў, дапамагаюць ім, часцей наведваюцца ў родную хату, каб старасць чалавечая не стала гаротнай і пакутнай.

Марыі Паўлаўне Грабун прыходзіцца пакуль што толькі паспачуваць і заклікаць родных і блізкіх успомніць пра старога чалавека, праявіць да яе ўвагу і чуласць. Бо тыя дзеці, хто не дагледзеў сваіх бацькоў на старасці, абавязкова пападуць у такое ж становішча, у якім аказаліся іх маці і тата.

Можна было б паспадзявацца на дапамогу аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва Івацэвіцкага райвыканкама. Але ж яе пакуль што няма, як сказала нам М. П. Грабун.

Шмат гадоў жыве ў вёсцы Доўгае Марыя Паўлаўна. І не адна яна тут пенсіянерка. Іх 101 чалавек з 228 вяскоўцаў. Амаль палова жыхароў. А ў суседняй вёсцы Вуглы становішча такое: са 140 вяскоўцаў 128 пенсіянеры.

Так што нашы вёскі зусім пастарэлі. І не толькі названыя. Увагі патрабуе не толькі адна М. П. Грабун, а і ўсе старыя людзі, якія напрыканцы свайго жыцця застаюцца сам-насам са сваімі надзённымі праблемамі. На жаль, мала каму ёсць да іх справа. Хто ж закіне слова за старога?

*С. РЫГОРАЎ.*
*Івацэвіцкі раён.*

● *ОФИЦИАЛЬНО*

# "Беларусбанк" приступил к приему заявлений граждан на получение сертификатов государственных компенсационных облигаций

*Учреждения АСБ "Беларусбанк" с 21 июля нынешнего года приступили к приему заявлений граждан на получение сертификатов государственных компенсационных облигаций. Такое решение принято в соответствии с Указом президента республики "О компенсации обесценения вкладов и облигаций целевого беспроцентного займа 1990 года на приобретение товаров длительного пользования (ценных бумаг)".*

Право на такую компенсацию предоставляется всем вкладчикам Сберегательного банка Республики Беларусь и их наследникам, имевшим в период с 1 января 1992 года до 1 января 1995 года соответствующие вклады, и владельцам ценных бумаг, приобретенных в учреждениях Сберегательного банка Республики Беларусь. Исключение составляют вклады, хранившиеся менее трех месяцев, выигрышные вклады, а также вклады на объединенных и компенсационных счетах.

В первую очередь, как это определено постановлением правительства, право выкупа государственных компенсационных облигаций предоставлено гражданам, которым исполнилось 75 и более лет на дату подачи заявления. Первоочередное право предоставляется и гражданам, которые являются родителями и не вступившими в новый брак женами военнослужащих, смерть которых связана с исполнением обязанностей воинской службы, а также лицами, награжденными орденами и медалями за самоотверженный труд и безупречную воинскую службу в годы Великой Отечественной войны. К этой категории относятся и лица, работавшие в период блокады Ленинграда на предприятиях, в учреждениях и организациях города и те, кто награжден знаком "Жителю блокадного Ленинграда".

При обращении в банк, кроме паспорта, необходимо иметь документы, подтверждающие принадлежность к вышеназванным категориям. Право досрочного выкупа государственных компенсационных облигаций предоставлено гражданам, нуждающимся в улучшении жилищных условий и имеющим право на получение льготных кредитов, то есть включенным в списки исполкомов, утвержденные облисполкомами.

По данным пресс-службы АСБ "Беларусбанка", суммы выкупленных (погашенных) государственных компенсационных облигаций с учетом начисленного дохода будут зачисляться на специальные накопительные счета. Хранящиеся на них средства можно использовать только для безналичных платежей за продукцию, работы, услуги, погашение кредитов, предоставляемых на строительство, реконструкцию, покупку жилья. При досрочном выкупе — для строительства, реконструкции, покупки жилья, а также для погашения льготных кредитов на указанные цели.

Граждане, не относящиеся к категориям вышеназванных вкладчиков, могут не торопиться с подачей заявлений и получением сертификатов государственных компенсационных облигаций,так как от срока подачи заявления доход, начисляемый на облигации, не зависит.

Выдача сертификатов государственных компенсационных облигаций по вкладам "до востребования" будет осуществляться учреждениями банка с 1 февраля 1999 года.

*БЕЛТА.*

*XXX*

**Дополнительную информацию можно получить в Ивацевичском филиале № 111 АСБ "Беларусбанка" (г. Ивацевичи, ул. Советская, 16). Специалисты Татьяна Александровна Казак и Татьяна Ивановна Третьяк готовы ответить на все интересующие вас вопросы. Телефоны 2-19-09 и 2-14-04.**

● *ПО СЛЕДАМ НАШИХ ВЫСТУПЛЕНИЙ*

# "Дом-гараж"

**("Газета для вас" № 45 за 30 жніўня 1997 г.)**

Первоначально факты, изложенные в статье "Дом-гараж", председатель Барановичского горисполкома Михаил Яковлевич Павлов официально прокомментировал будто бы однозначно: гараж построен жителем г. Барановичи Бруцким незаконно, на новую квартиру он не имеет прав.

Но за время, прошедшее со дня публикации в "Газете для вас" ответа горисполкома, многое изменилось. Отдел по жилищным вопросам детально изучил проблему семьи, оказавшейся в гараже. И ей разрешено временно поселиться в доме без коммунальных услуг до окончания строительства кооперативной квартиры. К слову, Бруцкого вне очереди ввели в состав ЖСК. Ему будет оказана поддержка в выплате за новое жилье.

Так, пока счастливо, решается судьба семьи, по воле случая оказавшейся в гараже. Публикация в "Газете для вас" все же сработала.

# "Что хочу, то и ворочу"

**("Газета для вас" № 12 за 14 лютага 1998 г.)**

В жилищной проблеме Л. Бубен, созданной председателем профкома комбината сенажных башен, Барановичский горисполком разобрался. Поскольку всем очередникам на новое жилье были оставлены старые малогабаритные квартиры для расширения в будущем жилья, Томашевскому указано на несправедливость по отношению к Бубен. Сейчас она с сыном — в новой квартире и ищет возможность обмена двух "однокомнаток" на одну, соответствующую нормам проживания.

● *УВАГА: КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ*

# Блізкая гісторыя

## паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965

***Архіў Найноўшай Гісторыі (пры Беларускім Гуманітарным Фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны абвяшчае конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965".***

Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага для нас часу — мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта... Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.

У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных установаў: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.



Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне, альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў, ці нават фільм, інтэрв'ю і г. д. Галоўнае — праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых формаў да працы павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніцаў могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г. д. Да працы павінна быць абавязкова далучана метрычка (даныя пра сябе).

**Працу трэба дасланць у адным асобніку да 16 лістапада (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: 220123, Мінск, а/с 71.**

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны 15 снежня 1998 года. Пераможцаў конкурсу чакаюць прызы.

Усю патрэбную інфармацыю і парады можна атрымаць ад рэгіянальнага каардынатара конкурсу сп. Аляксандра Горбача (тэл. у Івацэвічах 2-12-29), альбо ў сакратара конкурсу сп. Ірыны Коваль па тэл. (0172) 77-46-25 з 7-00 да 8-00 і з 22-00 да 23-00 па панядзелках і чацвяргах. Умовы конкурсу ўжо друкаваліся ў газеце "Наша Ніва" (№ 10 за 1 чэрвеня 1998 г.).

Жадаем поспехаў.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

